*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 20 (607) 4 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.

## Сустрэча ў Магілёве

У межах працы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць", што адбылася 22-23 траўня, Магілёў наведалі старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", сябар рады ТБМ прафесар Анатоль Грыцкевіч і старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны , дацэнт Алег Трусаў.

Вечарам 21 траўня яны атрымалі магчымасць выступіць перад інтэлігенцыяй горада ў памяшканні абласной бібліятэкі на сустрэчы, якая ладзілася творчай гасцёўняй "Віленскі тракт". Героем дня сустрэчы быў Анатоль Грыцкевіч, які распавёў прысутным пра свой жыццёвы і творчы шлях і адказаў на шматлікія пытанні.

А. Трусаў у сваім выступе падкрэсліў некаторыя рысы навуковай, выкладчыцкай, палітычнай і грамадскай дзейнасці аднаго з самых вядомых сучасных беларускіх гісторыкаў. Ён таксама раздаў прысутным апошнія нумары газеты "Наша слова", дзе актыўна друкуе свае матэрыялы спадар Грыцкевіч. На сустрэчы прысутнічалі кіраўнікі Магілёўскай абласной і гарадской арганізацыі ТБМ, спявалі беларускія песні мясцовыя беларускія барды.

23 траўня Алег Трусаў і вядомы беларускі гісторык, дэпутат ВС Беларусі XII склікання Валянцін Голубеў выступалі з публічнай лекцыяй, прысвечанай мінуламу і сучаснаму г. Магілёва перад працаўнікамі ААТ "Магілёўхімвалакно".

У сваім выступе старшыня ТБМ расказаў, як шанавалі беларускую мову жыхары Магілёва ў XVI-XVII стст, вучылі на ёй дзяцей, выдавалі кнігі і буквары, вялі справаводства. Нават пасля таго, як пасля 1696 г. дзяржаўнай мовай у краіне стала польская мова, магілёўскі магістрат яшчэ некалькі год вёў свае справы па-беларуску. Але зараз у Магілёве няма ніводнай школы і нават класа, дзе б навучанне ішло па-беларуску.

Прысутныя падтрымалі выступоўцаў, і задалі ім шмат пытанняў. Сярод іх былі распаўсюджаны газеты ТБМ "Наша слова" і "Новы час", а таксама каляндарыкі з выявамі Францішка Аляхновіча і Наталлі Арсенневай.

*Наш карэспандэнт.*

## Годны вучань годнага настаўніка



1 чэрвеня споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння член-карэспандэнта НАН Беларусі **Андрэя Майсяёнка**, шчырага прыхільніка Беларушчыны, старшыні Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Андрэя Георгіевіча з днём народзінаў. Прафесар Майсяёнак з гонарам лічыць сябе вучнем акадэміка Юрыя Астроўскага, аднаго з пачынальнікаў беларускага адраджэння. Мы жадаем юбіляру далейшых поспехаў на ніве беларускай навукі і на ніве станаўлення нацыянальнай беларускай свядомасці ў нашым грамадстве.

**На здымку 1977 года:** А. Майсеёнак, Ул. Яфрэмаў і Ю. Астроўскі.

## Заява

### Грамадскай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя журналістаў" у сувязі з узмацненнем рэпрэсій у дачыненні незалежных СМІ і журналістаў

У Беларусі на мяжу закрыцця пастаўлены пяць недзяржаўных выданняў – "Белорусская деловая газета", "БДГ. Для служебного пользования", "Народная воля", "Вечерний Столин", "Навінкі". Рэдакцыям гэтых выданняў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла афіцыйныя папярэджанні, якія могуць стаць падставай для закрыцця газет.

За тры дні (20-22 траўня) міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны падпісаў пяць папярэджанняў за парушэнне патрабаванняў артыкула 5 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", што больш, чым за ўвесь мінулы год. Згодна з беларускім заканадаўствам, пасля вынясення двух папярэджанняў па арт. 5 Закона аб друку на працягу года выданне можа быць закрытае ў судовым парадку.

У шэрагу выпадкаў ініцыятарам вынясення папярэджанняў незалежным выданням была Пракуратура Рэспублікі Беларусь. Менавіта ў пракуратуры адбыліся і "прафілактычныя размовы" з галоўным рэдактарам "Навінак" Паўлюком Канавальчыкам, намеснікам галоўнага рэдактара "Народнай волі" Аляксандрам Сілічам, журналісткай газеты Марынай Коктыш, якіх змусілі даць пісьмовыя тлумачэнні. Акрамя гэтага, органы пракуратуры ўзбудзілі крымінальную справу супраць выдаўца рэгіянальных газет "Вечерний Столин" і "Провинциалка" Аляксандра Ігнацюка па арт. 369 КК "Знявага прадстаўніка ўлады". Пракуратура занялася вышукваннем недахопаў у працы недзяржаўных газет, хаця сама так і не дамаглася прагрэсу ў пошуках зніклых, у тым ліку нашага калегі, сябра БАЖ Дзмітрыя Завадскага.

Прыведзеныя факты сведчаць, што пракуратура і Міністэрства інфармацыі ператварыліся ў органы цэнзуры. Гэта з'яўляецца наўпроставым парушэннем Асноўнага Закона і міжнародных абавязальніцтваў Рэспублікі Беларусь.

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў":

-выступае супраць грубых парушэнняў свабоды слова ў Беларусі;

-патрабуе ад Міністэрства інфармацыі і пракуратуры спыніць ажыццяўленне ўскоснай цэнзуры, якая вядзе да знішчэння незалежнай прэсы;

-звяртаецца да беларускай грамадскасці і міжнародных арганізацый з заклікам выказаць салідарнасць і аказаць падтрымку дэмакратычным журналістам і выданням Беларусі.

*Прынята на праўленні ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" 27 траўня 2003 года.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Рэзьнікаў Алесь – 1000 р., г. Менск.
2. Глінская сярэдняя школа – 16000 р.
3. Мельнік Міхась – 10000 р., г. Ліда.
4. Багданкевіч Святл. – 1000 р., г.Менск.
5. Піліп Голуб – 5000 р., г. Дзятлава.
6. Петруковіч Васіль – 10000 р., г.Менск.
7. Безансон Л. В. – 2000 р., г. Менск.
8. Місцюкевіч Ал-др -10000 р., г. Горадня.
9. Талуць С. Ф. – 3000 р., г. Гомель.
10. Жлановіч Міхаіл – 5000 р., г. Менск.
11. Скрэчка Анатоль – 5000 р., г. Мазыр.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Касір

Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Плацельшчык

## Справаздача па выніках працы Фонда развіцця рэгіянальнай прэсы ў 2002 годзе

За 2002 год балансавы прыбытак склаў 15 579 584 руб.

Дадзены прыбытак накіраваны на наступныя мэты:

- абавязковыя плацяжы ў бюджэт і пазабюджэтныя фонды (падаткі і адлічэнні з прыбытку) - 2 520 265 руб.

Чысты прыбытак Фонду - 13 059 319 руб.

Капітальныя ўкладанні (набыццё асноўных сродкаў) - 2 670 514 руб.

Іншыя выдаткі (сувенірная прадукцыя, памылка ў пастаноўцы рэкламы, дабрачынны ўнёсак у Раду таварыства выратавання на водах, даплата за арэнду офіса, праязныя квіткі) - 557 533 руб.

Неразмеркаваны прыбытак справаздачнага года - 9 831 272 рублі.





# “ЯК ПАЧУЛІ КАЗАННЕ Ў СВАЁЙ МОВЕ, ДЫК АД РАДАСЦІ АЖ ЗАПЛАКАЛІ”

## (З гісторыі беларускай мовы на Шклоўшчыне)

*22-23 траўня ў Магілёве адбылася III Міжнародная навуковая канферэнцыя “Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць”. У канферэнцыі бралі ўдзел шмат сяброў ТБМ з Магілёва, Менска, Берасця, Шклова і іншых беларускіх гарадоў. Зразумела, што ўсе яны выступалі па-беларуску, і таму наша родная мова добра пачувалася на гэтым мерапрыемстве. Да канферэнцыі былі выдадзены яе матэрыялы ў двух тамах накладам 300 асобнікаў.*

*Мы прапануем нашым чытачам матэрыял старшыні Шклоўскай рады ТБМ сп. Грудзіны, які выклікаў шмат пытанняў з боку расійскіх даследчыкаў.*

***Сёння на пласе родная мова,***
***Вырваць жывую належыць з агню,***
***Слова “кахаю” – тут слабае слова,***
***Мужнае слова – “абараню”.***

**Ларыса Геніюш.**

Уздым нацыянальнага руху на Беларусі ў пачатку 90-х гадоў нарадзіў надзею, што нарэшце насталі спрыяльныя ўмовы для адраджэння беларускай мовы. Але працэс гэты быў нядоўгім і ў хуткім часе надзею змяніла роспач. Неаднаразова аналізуючы моўныя падзеі на Беларусі, у думках міжволі ўзнікала пытанне: “А ці з’яўляецца беларуская мова ўвогуле “матчынай мовай” менавіта для нас, жыхароў Шклоўшчыны?”

Як вядома, першыя помнікі, напісаныя па-беларуску, захаваліся з 13 стагоддзя і паходзяць яны з земляў Полацкай і Смаленскай. У 14 стагоддзі беларуская мова стала гаспадарчай у новым беларускім гаспадарстве, вядомым у гісторыі пад назвай Вялікае княства Літоўскае. Шклоў мае непасрэднае дачыненне да гэтых зямель.

Найбольш ранняе паведамленне непасрэдна аб мове ў тутэйшых мясцінах можна знайсці, азнаёміўшыся з працай Ганны Запартыкі “Страчаныя скарбы манастырскіх бібліятэк”, надрукаванай у часопісе “Спадчына” за 1997 год. Аўтар паведамляе пра рукапісныя манастырскія скарбы і ў тым ліку пра царкоўную кнігу “Чэцці-мінеі”, напісанную ў 1669 годзе па-беларуску. Гісторыя гэтага рукапісу раскрываюць надпісы на старонках: “Сию книгу глаголемую житие святыхъ на монастырь Кутеенский панъ Иванъ Кособуцкий мещанин Шкловский”. Можна спадзявацца, што шклоўскі мешчанін Іван Касабуцкі працуючы ў Куцеінскім манастыры каля Оршы і рабіў свой пачэсны ўклад у распаўсюджванне кніг на зразумелай “люду паспалітаму” мове.

Беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім да канца 17 стагоддзя. Аднак у сувязі з палітычнымі абставінамі ў далейшым пачаўся яе заняпад. Першыя перасталі гаварыць па-беларуску магнаты, а потым і звычайныя панове. Носьбітамі роднай мовы засталіся сяляне, збяднелая мяшчанства і шляхта. Аднолькавыя працэсы адбываліся і ў шклоўскім наваколлі. Пасля наведвання ў 1792 годзе Шклова вядомы рускі генерал С.А.Тучкоў напісаў: “Мы покинули Беларусь… Язык, употребляемый простым народом и земледельцами или крестьянами, весьма разнится от настоящего польского, употребляемого дворянством. Он ближе подходит русскому и не имеет такого набора латинских и немецких слов”.

Яшчэ доўгі час беларуская мова захоўвалася ў набажэнствах Уніяцкай Царквы і асобных рымакаталіцкіх парафіях. Вось што паведамляла газета “Наша Ніва” ў кастрычніку 1908 года пра вёску Фашчаўка сучаснага Шклоўскага раёна: *“Тутака (у Фашчаўцы) скрозь жывуць беларусы, але ёсць і трохі літвінаў. Вось, у тутэйшым касцёле завёўся цяпер парадак, што казанні ксяндзы кажуць па-польску, па-літоўску і па-беларуску; таксама спявае народ песні касцёльныя ў гэтых трох мовах. Беларусы тутэйшыя, як пачулі першы раз казанні ў сваёй мове, дык ад радасці аж заплакалі.”* Наведаў у свой час гэтую вёску святар Канстанцін Стаповіч, вядомы ў беларускай літаратуры як паэт Казімір Сваяк, і вось што ён напісаў: *“Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол расселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кругом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы Езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў… Хвашчоўка так добра перахапіла свой беларускі характар, што сялянкі дагэтуль убіраюцца ў строі народныя.”*

Новая хваля беларускага адраджэння пачынаецца ў пачатку 20 стагоддзя. 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, а ў 1919-1920 гадах – Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. На дзяржаўным узроўні пачынаецца праца па адраджэнні беларускай мовы. Як сведчыць “Справаздача аб дзейнасці Магілёўскага акругова выканаўчага камітэта Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў” ад 20 сакавіка 1927 года, у 1925 годзе ўсе школы ў акрузе, якія мелі пераважную колькасць вучняў беларусаў, былі пераведзены на родную мову. Амаль што ўсе ўстановы ў справаводстве перайшлі на беларускую мову. У 1925 годзе ствараліся беларускія курсы, якія працавалі пры розных установах… Актывізавалася дзейнасць у гэтым кірунку краязнаўчага таварыства. Пашыралася работа па эканамічным, этнаграфічным даследванні Магілёўшчыны, збіранні слоў жывой беларускай мовы.

Часопіс “Прафесійны рух Беларусі” у артыкуле “Бярыце прыклад” паведамляў: *“15 траўня ў Шклове адбыўся выпуск слухачоў курсаў беларускай мовы пры прафесійным Бюро. Калі раней селянін, прыходзячы з вёскі па сваіх справах у тую ці іншую ўстанову, чуў толькі расійскую мову, незразумелую для яго, ён пачынаў скардзіцца. Селянін думаў пры гэтым: “Навошта яго дзеці вучацца на роднай яго мове, калі яна нідзе не ўжываецца акрамя школы і вёскі, калі ёй і па сучасны момант ганьбуюць, лічачы яе мовай мужыцкай”. Цяпер жа, дзякуючы таму, што працаўнікі савецкіх установ г. Шклова добра ўявілі сабе беларускую мову, селянін наш пачуе сваю матчыну мову не толькі ў школах, але і ў іншых нашых установах. Ён будзе цяпер атрымліваць розныя паперы з рады на сваёй мове, якая раней, пры царскай уладзе, была затаптана ў гразь разам з селянінам, ужываўшым яе. Трэба толькі пажадаць, каб нашы адпаведныя кіраўнікі пайшлі гэтым шляхам і хутка ўявілі сабе мову селяніна - мову таго народу, ад якога мы ўтварыліся, сярод якога прымушаны працаваць. Бо колькі б мы ні працавалі на чужой мове, не ведаючы сваёй сучаснай і мінулай гісторыі жыцця нашага народу, наша праца не будзе карыснай.”*

Выдатную ролю ў аднаўленні літаратурнай мовы ў гэты час адыгралі беларускія пісьменнікі. Сярод гэтых дзеячоў знаходзіцца і Міхась Зарэцкі (Касянкоў). Дзяцінства будучага пісьменніка прайшло на Шклоўшчыне ў вёсцы Зарэчча. Менавіта пад уражаннем вёскі, якая раскінулася на супрацьлеглым ад Шклова беразе Дняпра, нарадзіўся і пісьменніцкі псеўданім. Але праца гэтая не была завершаная. Пры канцы 20-х гадоў бальшавіцкія ўлады абвінавацілі моваэнаўцаў у шкодніцтве і за некалькіх хваляў рэпрэсій вынішчылі іх фізічна. Не мінуў гэты лёс і Міхася Зарэцкага. У 1933 годзе беларусай мове спешна, без грамадскага абмеркавання, дэкрэтам навязалі рэформу. Мэтай яе была “ліквідаваць штучны бар’ер паміж беларускай і рускай мовамі”, гэта значыць спыніць развіццё беларускай мовы, пазбавіць яе непаўторнага аблічча.

Аднак мова не памерла. Ужо ў пасляваенны час Шклоўшчына нарадзіла новых пісьменнікаў. Гэта паэты Сцяпан Гаўрусёў, Яўген Крупенька, Анатоль Сербантовіч, Аляксандр Жыгуноў, празаік Уладзімір Шыцік. Шмат гадоў жыве і працуе ў горадзе Шклове ллітаратар Лявон Анціпенка.

Апошні раз сваю нязломную волю да выжывання беларусая мова яскрава засведчыла падчас апошняга перапісу насельніцтва Рэспубллікі Беларусь у 1999 годзе, калі 86 працэнтаў насельніцтва Беларусі назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37 працэнтаў – афіцыйна засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску.

Дык ці з’яўляецца беларуская мова для нас матчынай мовай? Мовай якую, нягледзячы ні на што, нашы продкі пранеслі праз польскую і расейскую экспансію?

Так! Гэта наша спрадвечная мова. Справа гонару для нас – перадаць яе наступным пакаленням.

***А. Грудзіна.***

# Быць сабою ў прозвішчы

Не ведаю, як каму, а мне ў маладосці давялося адстойваць права заставацца сабою ў выбраным маімі прашчурамі прозвішчы. Пасля вайны, у 1945 годзе, калі такіх, як я, сямнаццацігадовых беларускіх юнакоў адправілі на службу ў горад-цвердзь Кранштадт. Памятаю, старшына роты зшыхтаваў нас, “салагаў” на вечаровую паверку ў казарме і стаў выклікаць кожнага па спісу, на што належала адказваць: “Ёсць”. Чую ў мой бок вокліч:

- Тычинов!

Я не адгукнуўся, але паправіў старшыну, сказаўшы, што маё прозвішча – Тычына.

-Что за странная фамилия? – з кпінай у голасе, пад смяшкі шыхту, адказаў старшына. Выручыў мяне незнаёмы матрос, які гучна аб’явіў, што ў іх на Украіне ёсць паэт Паўло Тычына, магчыма, я яму даводжуся сваяком, на што старшына памяркоўным тонам адказаў: “Ну, пусть будет и наш Тычина”.

З таго вечара мяне на паверках выклікалі беспамылкова, хоць, адчувалася, старшыну роты, родам які быў за Валагодчыны, бянтэжылі такія беларускія прозвішчы (а прыбыло нас, навабранцаў, з Беларусі ажно два таварныя цягнікі), як Цыбулька, Пенязь, Дзяцел, Шкода, Кот, Кудзёлка. Мусіць, яму б прыемна было параінaчыць іх на свой расейскі “капыл” – з канцоўкай на “ов”, тым болей, што прызыўнікі з Магілёўшчыны і Гомельшчыны падавалі прыклад: сярод іх было нямала Кавалёвых, Смірновых, Катляровых і г.д., што сведчыла аб уплыве на фармаванне прозвішчаў суседніх расейскіх губерняў.

Выбар нашымі далёкімі прашчурамі прозвішчаў ува многім быў звязаны з месцам пражывання, навакольным асяроддзем, раслінным і жывёльным светам, з пэўным рамяством. Гэтая атаясамлівасць праглядваецца і на Случчыне, асабліва ў вёсках, дзе да апошняга часу пражывала большасць жыхароў раёна. Напрыклад, у вёсках Паўстынь, Мерашыно, Заграддзе, Папоўцы, заснаваных у свой час на грудках-узвышшах сярод неабсяжных балотаў, стала масавым прозвішча Жук – яго там і сёння носяць звыш 60 сем’яў – мяркую па тэлефоннаму даведніку, хоць не ўсе вяскоўцы маюць такую сувязь, а на самай справе іх, Жукоў, значна больш. Там жа ўслед ідуць “прывязаныя” да зямлі-матухны прозвішчы Салавей, Цвірка, Заяц, Лісок, Мароз, Гурба, Шпак, Альховік, Чыжык, Сініца. Аднак, як ні прыкра але многія беларусы ў свой час ды і цяпер лёгка паддаюцца на перайначанне сваіх прозвішчаў на расейскі, а то і ўкраінскі лад. Многія мае саслужыўцы па Балтфлоту не пярэчылі, калі іх прозвішчы заносілі ў спісы з канчаткам на “о” –Цыбулько, Мурашко, Бярозко, Цярэшко, Шышко і г. д. Пазней, ужо стаўшы цывільнымі людзьмі, а некаторыя і начальнікамі ў гарадах і вёсках, на дзвярах сваіх кабінетаў вывешвалі шыльды з падобнымі “пераліцоўкамі”.

У людзей простага стану, мяркуючы па сельскіх АТС, лепей захавалася прывязанасць да сваіх “каранёў”. Па Гацукоўскай АТС прозвішча Дубовік упамінаецца 18 разоў, Каляда- 15. У вялікіх вёсках Ленькі, Покрашава з дзесятак вяскоўцаў пэўна ж не крыўдуюць на нашчадкаў за выбар прозвішча Кобель, не кажучы пра такія, як Ліс, Каток, Ручан, Сечка, Сітнік. А ў сёсцы Вясея прыжылося прозвішча Троцкі, якое ў 30-я гады людзі баяліся вымаўляць услых, памятаючы аб небезвядомым ворагу Сталіна - Троцкім, які ў Леніна быў праваю рукой у гады грамадзянскай вайны. Дык вось, у Вясеі Троцкіх аж восем сем’яў і ніхто з іх не спрабаваў перайначыць – сваё савецкае і антысавецкае адразу прозвішча!

Шмат у раёне у сельскай мясцовасці сем’яў з прозвішчамі Калядка, Каляда, вытокі якіх ідуць ад хрысціянскіх, а, магчым і дахрысціянскіх беларускіх святаў.

І тым не менш занадта шмат яшчэ прозвішчаў з украінскай канцоўкай – Шышко, Вітко, Маляўко, Лешчанко, Макаранко, Гурко і г. д., іх і ў новыя пашпарты заносяць без замены на наш, беларускі лад.

А зазірнеце на надмагільныя помнікі ў вёсках – там, за рэдкім выключэннем, эпітафіі нябожчыкам выбіваюць на расейскай мове – як і дзвесце гадоў таму, калі па волі царквы лічылася, што ўсякі праваслаўны беларус – гэта рускі чалавек, служба ў храмах вялася і вядзецца цяпер на адной мове – рускай. Тое самае назіраецца з беларусамі-католікамі, пасля смерці ставілі помнікі з эпітафіяй на польскай мове, хоць большасць на ёй пры жыцці і не размаўляла. Дарэчы, на гарадскіх могілках паблізу вёскі Селішча, дзе пахавана ўжо не адна тысяча нябожчыкаў, толькі на магіле аднаго з іх эпітафія выбіта па-беларуску.

Дзе, ў якой іншай краіне свету можна ўбачыць падобнае? І хочацца сказаць: шаноўныя грамадзяне, не саромейцеся вымаўляць і заносіць у дакументы свае, на помнікі памёрлым свае адвечныя прозвішчы, як гучалі яны ў дзядоў-прадзедаў. Давайце будзем заставацца сабою, паважаць прозвішчы гэтак жа, як і родную мову, так доўга дзяржавай і ўсімі “недагледжаную” і падзабытую, бо без яе мы – не нацыя, а натоўп, якому наканавана выраджэнне, як старажытным скіфам і хазарам.

***Міхась Тычына, г. Слуцк.***

# Падарунак для душы

Мастацтва – гэта заўседы цуд. Вось такую маленькую сустрэчу з цудам падарыла моладзь бабруйскай парафіі ўсім, у каго жывая душа. У касцёле Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны існуе музыкальны гурт “Magnificat”. Арганізатарам, кіраўніком і душой яго з’яўляецца сястра з ордэна Дачок Марыі Успамогі, альбо прасцей, салезіянка сястра Ала Валюкевіч. “Magnificat” здолеў выпусціць свой першы дыск “Спяваю для Цябе”. Большасць песень спяваецца на беларускай мове, якой наша моладзь валодае даволі прыстойна. Зараз гурт працуе над ажыццяўленнем сваёй мары – выпускам другога дыска.

Дапамагай ім Бог.

***Ала Грахава, г. Бабруйск.***

# Свята гонару і мужнасці

*Кожны чалавек каштуе роўна столькі, колькі застаецца ад яго жыццёвага досведу і працягваецца ў досведзе наступных пакаленняў.*
*Д. Ііеш.*

140 гадоў таму ля вёскі Мілавіды (Баранавіцкі раён) адбылася найвялікшая бітва падчас вызвольнага паўстання 1863 г. на Беларусі. Гэтую барацьбу ўзначаліў слаўны сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі, якога ваяры ласкава называлі "кароль Літвы" (Літвою ў тыя часы называлі заходнюю і цэнтральную Беларусь). Паўстанцы марылі, што стануць гаспадарамі на сваёй зямельцы, што іх Бацькаўшчына будзе не паўночна-заходняй правінцыяй царскай Расіі, а вольнай і дэмакратычнай краінай.

З нагоды гэтай слаўнай даты ў нашай гісторыі 22 траўня 2003 г. у ваколіцах Мілавідаў адбыўся святочны мітынг. На свяце гонару і мужнасці рэй вяла дырэктарка Мілавідскай СШ Марына Фёдараўна Прымшыц. Яна адзначыла важнасць гэтай падзеі ў гісторыі нашай краіны і заклікала прысутных вывучаць і любіць родную гісторыю. Старшыня Мілавідскага сельскага савету Аляксандр Васільевіч Шавель расказаў аб рэстаўрацыйных работах мілавідскіх помнікаў, якія прыйшлі ў заняпад ці былі апаганены манкуртамі. Ён выказаў шчырую падзяку дырэктару Баранавіцкага завода сантэхнічных і электратэхнічных дэталяў Гулюку М.Ф. за фінансавую і матэрыяльную дапамогу ў акультурванні і ўшанаванні гэтых святых для ўсіх нас мясцін.

Настаўніца гісторыі і загадчыца школьнага музея імя К. Каліноўскага Мілавідскай СШ Наталля Эдуардаўна Семяновіч расказала пра тыя падзеі на мілавідскай зямлі, якія адбыліся 140 гадоў таму. Яна паведаміла, што ў сярэдзіне траўня 1863 г. тут, у Мілавідскім лесе, паблізу шашы Берасце-Бабруйск, сабраліся Слонімскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Навагрудскі, Пружанскі паўстанцкія аддзелы (усяго каля 800 чалавек). 21 траўня лагер паўстанцаў інспектаваў Кастусь Каліноўскі. Камандаванне аб'яднанымі сіламі ўсклаў на сябе Аляксандр Лянкевіч (інсургенты называлі яго наш "Ляндар"). У 1993 годзе Мілавідскай СШ было прысвоена імя А. Лянкевіча, аднаго з самых яркіх патрыётаў Беларусі. На задушэнне паўстання царскія ўлады кінулі войскі са Слоніма (3 роты пяхотнага палка з гарматамі і кавалерыяй). Кіраваў карным аддзелам падпалкоўнік Булгарын. 22 траўня 1863 г. расійскія войскі з розных бакоў атакавалі лагер. Бой цягнуўся амаль цэлы дзень, але паўстанцы вытрымалі ўсе атакі рускіх салдат. Хутка на дапамогу царскаму войску падаспелі яшчэ 2 роты пяхотнага палка з Нясвіжа. Назаўтра карнікі аднавілі наступленне, але паўстанцы да гэтага часу пакінулі Мілавідскі лагер і разышліся ў розныя бакі, каб весці партызанскую барацьбу. Усе прысутныя на мітынгу ўважліва слухалі і глядзелі наўкол, быццам бы гэтыя падзеі 140 гадовай даўніны адбываюцца перад іх вачыма.



Падчас свята

Далей слова трымаў старшыня Баранавіцкай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны Віктар Сырыца. Ён прадставіў баранавіцкіх гасцей свята – сяброў Таварыства беларускай мовы, Фонду імя братоў Луцкевічаў, Баранавіцкай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Шкода, але ніхто з афіцыйных гарадскіх ці раённых уладных структур не пажадаў прысутнічаць на гэтым мерапрыемстве. Толькі 3 супрацоўнікі ДАІ маўкліва глядзелі на тое, што адбывалася вакол іх. В. Сырыца падкрэсліў, што кроў, пралітая за свабоду Бацькаўшчыны, становіцца святой. І каб захаваць гістарычную пераемнасць пакаленняў, мы павінны шанаваць гэтую святую мясціну, якую падчас імпрэзы асвяціў праваслаўны святар – айцец Сергій. Свята завяршылася выкананнем вершаў у гонар "Яські – гаспадара з-пад Вільні", патрыятычнай песняй і ўскладаннем кветак.





Затым удзельнікі свята прайшліся па вуліцы Паўстанцаў, наведалі музей Кастуся Каліноўскага ў Мілавідскай СШ. Вучаніца 10 кл. Хітрык Вольга падрабязна расказала нам аб усіх экспанатах і дакументах, прысвечаных касінерам К. Каліноўскага. Падзякаваўшы гаспадарам за цудоўнае мерапрыемства і гасцінны прыём, мы паехалі дамоў.

А 23 траўня 2003 г. у Цэнтральнай бібліятэцы імя В. Таўлая адбылася яшчэ адна ўрачыстасць з нагоды Мілавідскай бітвы. Тут былі падведзены вынікі агульнагарадской віктарыны, прысвечанай К. Каліноўскаму і яго інсургентам. Пераможцамі віктарыны сталі: вайсковы пенсіянер Мікалай Шастак, вучань Крывошынскай СШ Міхась Салодкі і студэнт Баранавіцкага эканамічна-юрыдычнага тэхнікума Аляксандр Панкратаў. Навучэнцы Баранавіцкага ліцэя № 1 надзвычай урачыста і патрыятычна прачыталі вершы, услаўляючыя Мілавідскую бітву і Кастуся Каліноўскага.



Адрэстаўраваныя помнікі пад Мілавідамі: 1913 г., 1933 г., 1990-я гады

Наш "кароль Літвы" пражыў усяго 26 гадоў, але пакінуў нам вялікую духоўную спадчыну. Толькі тады чалавек шчаслівы, вучыў Каліноўскі, калі ён свабодны. Дык дамагаймася гэтай свабоды.

*Старшыня Баранавіцкай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віктар Сырыца.*




Шыльда на школе імя А. Лянкевіча ў Мілавідах

